IDW
#37 • CVR A

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

EASTMAN
WALTZ
SMITH
PATTISON




Падлеткі мутанты чарапашкі-нінзя
№37 (2011)
пераклад і афармленне: Козыраў Сяргей

# NEW 52
# ЦУДА-ЖАНЧЫНА.
(DC, 2011)




**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**

**Azzarello, Chiang.** Богі ходзяць сярод нас. Толькі адна жанчына адважылася б абараняць чалавецтва ад гневу такіх дзіўных і магутных сілаў. Але яна адна з нас ці адна з іх? Новая эра пачынаецца для амазонскай прынцэсы Цуда-Жанчыны пад аўтарствам Брайана Азарэла і Кліфа Чанга.









Дзесьці ў Атлантычным акіяне.
«Ты сам прапанаваў сустрэцца, таму давай не будзем губіць час на глупыя ветласці і рабіць выгляд, быццам мы не знаёмы...»
...Ароку Сакі.
Значыць, ты памятаеш мяне... **Жалезны дэман**?
Я **ўсё** памятаю...
...штосьці горш, штосьці **лепш**. Няхай нават прайшло 300 гадоў з нашай апошняй сустрэчы... Да рэчы, гэты тэрмін я выкарыстоўваю **ўмоўна**.
Сапраўды.
А цяпер, калі **павітанні** скончаны, давай пяройдзем да **прычыны**. Міжнародныя воды не самае адасобленае месца.
Чым раней мы закончым, тым лепш.
Згодны, генерал.
І я хачу зрабіць вам **менавіта** дзелавую прапанову.


Цікаўна... Што ты можаш мне прапанаваць?


Гэта не тое, што ёсць у **мяне**, генерал, але абарону таго, чым у дадзены момант валодаеце **вы**.
І што б гэта магло быць?


Востраў Бёрнаў.




ХАХАХАХА!
Ты вырашыў правясці сустрэчу на **маім караблі** і адабраць **мой каштоўны час** толькі для таго, каб размаўляць пра **маю маёмасць**?
Гэта проста **вяршыня нахабства**.
Нават ня ведаю, выкінуць цябе за борт ці паціснуць табе руку.


І ўсё ж, я дам табе шанс патлумачыць. Проста каб **пацешыцца**.
Толькі ніякіх фокусаў нінзя - інач даведаешся, якое ў мяне **кароткае** цярпенне, Шрэдар.
Запэўніваю вас, генерал, ніякіх фокусаў...

«...я хачу **толькі** паразмаўляць».

Алапекс...

...Алапекс...
Тут...

...Ззаду
ад цябе.

**Кіцунэ!**

Грррр...

Супакойся,
дзіцё...

...я не зраблю
табе **крыўды**.

Тады што
табе трэба?

Проста выслухай
мяне, Алапекс.
**Прыслухайся**
да маіх слоў.


Я ўжо казала табе, лісы павінны ведаць, калі неабходна **назіраць**... А калі - **дзейнічаць**. Прыйшоў час для **другога**.
Дзейнічаць? Як вы можаць казаць такое? Я **дзейнічала**... супраць Шрэдара. І цяпер...
...я засталася адна.
Але табе не абавязкова быць адной, дзіцё. Ты дзейнічала, гэта праўда, але гульня яшчэ **не скончылася**.
Гульцы працягваюць збірацца...

...і ты патрэбна дома.

Дома?
Так, дзіцё. Ты не ўспомніш гэтую размову...

...але будзеш ведаць, што табе трэба **вярнуцца** да мяне.

Што?

Што гэта...
Гэта так дзіўна.

«Кіцунэ... здаецца, так звалі **ведзьму**?»


Калі я бачыў вас у апошні раз, вы былі **не разлі вада**.
Кіцунэ сапраўды застаецца каля мяне. Відавочна, не ў дадзены момант.
Я вырашыў, што калі прыбуду адзін, мне будзе лягчэй пераканаць вас у **шчырасці** маіх намераў.
Ведаеш, гэта пацешна...


«...наколькі я памятаю, не Кіцунэ **атакавала** мяне».


Таму прабач, што я **сумняваюся** ў тваёй шчырасці.
Што ж, гэта нядзіўна, прымаючы на ўвагу абставіны нашай мінулай сустрэчы. Але я дзейнічаў у інтарэсах свайго клану, і ў маіх дзеяннях **не было** нічога асабістага ў адносінах да вас.


Акрамя таго, тады быў іншы час, і з тых часоў шмат **змянілася**. Зараз мы жывем у абсалютна **іншым** свеце... У свеце, якія я збіраюся валадарыць, калі прыйдзе час.
Калі гэта здарыцца, мне спатрэбяцца моцныя і ўмелыя **саюзнікі.**


**Гэтае** пытанне я хачу абмеркаваць з вамі, генерал Крэнг.


Я атрымаў інфармацыю, што вы распрацоўваеце новыя захапляючыя **тэхналогіі**.
«Не буду ўдакладняць, **як** я здабыў яе».
«Я толькі скажу, што мае крыніцы **надзвычайна** надзейныя».
«І хоць я **змог** паспяхова выкарыстаць большую частку гэтай інфармацыі...»
«...я лічу, што мы абодва маглі б дабіцца большых рэзультатаў, калі б **аб'ядналі** нашыя веды і, што значна важней, нашыя **рэсурсы**».
Reading Comics online: VIEWCOMIC.COM

Дык вось мы і высвятлілі, што цябе **на самой справе** цікавіць...
...мой глей.
«Ці варта казаць, што я трымаю яго пад пільным наглядам пасля таго, як страціў частку яго дзякуючы намаганням тваіх **«інфарматараў»**.
«І калі ты хоць на секунду падумаў, што я ня ведаю, **як** ты «атрымаў» яго, Шрэдар...»
«...ты **памыляешся**».
«І ты **губляеш** час, калі лічыш, што запасы глею хоць неяк дапамогуць табе».
«Запушчаны ланцуг падзей, якія выклікаюць шмат **пытанняў** да тваіх жаласных **дыктатарскіх** амбіцый. Хутка Зямля здасца, і на яе месцы ўзнімецца Новы Утрамінон...»


«...а яго адзіным валадаром буду **я**».
Вы... Вы сапраўды лічыце, што зможаце валадарыць гэтым светам?
Вось гэта сапраўды **нахабства**.


Вы павінны разумець, што гэтая планета **ніколі** не ўспрыме вас, **іншапланецяніна**, як свайго лідэра...
...якім бы грандыёзным ні быў ваш план заваявання.


Прашу цябе, Шрэдар... Няўжо ты лічыш, што гэта мае для мяне **хоць нейкае** значэнне?
У мяне ёсць тэхналогія і магчымасць знішчыць любыя арміі, якія гэта другагатункавая планетка **асмеліцца** супрацьпаставіць мне.

О, ваша магутнасць бясспрэчна, і нейкі час вы можаце валадарыць, але чалавецтва будзе супраціўляцца кожнаму вашаму кроку.
Відавочна, калі вы не **аб'яднаецеся** з кланам «Фут».










Слухай мяне ўважліва: не будзе **ніякага** альянсу, **ніякага** супрацоўніцтва... **Ніякага** выбачэння мінулых грахоў. Будзе толькі Новы Утрамінон, і на яго троне буду сядзець **я**.

А пра сваё паўстанне людзішак можаш **забыць**, Шрэдар, бо ніякіх людзей **таксама** не будзе. Я збіраюся забіць іх усіх...


...пачынаючы з
ЦЯБЕ!


Ён **мёртвы**, генерал?
Дастаткова. Забярыце яго цела - я зраблю з яго новы касцюм.
Што рабіць з **гэтымі** дзвюма, сэр?


Накіруйце іх услед за іх **каштоўным спачылым лідарам**, капітан Траг.


Няма патрэбы, генерал.
Сакі?


Але... як?
Фокус нінзя... памятаеш?


KLIK


BEEP
BEEP
BEEP


BLAM
BLAM
BLAM
BLAM
Сакі! Ён уцякае!
Майстар, бяжыце...




Пілот, рыхтуй шрубалёт...
Слухаюць вашага **загаду**, майстар.
...улятаем **неадкладна**!


**Падымайцеся**, камнегаловыя дурні!


Гэта яшчэ не канец.




CHOOM


Ты **сапраўды** лічыў, што зможаш уцекчы, Шрэдар? У цябе не было ані шансу.


Як вы, жаласныя зямляне, кажаце, ня трэба было прыносіць нож...


...на **перастрэлку**.
Твой шрубалёт збіты, твае людзі мёртвыя, і цяпер ты нікуды не рынешся, а значыць, мы правядзем разам шмат часу. І, павер мне, ты даведаешся, што такое **сапраўдныя** пакуты.


Ну жа, генерал, уж хто-хто, а **ты** павінен ведаць...


...што ў добрага стратэга павінен быць козыр.
Запасны план, які з паражэння зробіць перамогу.


Пазнаёмся з **маім**.


GRAAGH!
SKREEE
Бладжэн...
...Коя...
KSSSH
...да мяне.


Траг!
SKREE


Уфф!
FZZAKK
Гранітар!


Знішчыце гэтую мярзоту.


Мне трэба расплюшчыць **казурку**.







...для мяне гэта не **ў першыню**!













З мяне досыць!

KA-BOOM


=Фуф =
Ты **памыляешся**, Крэнг. Гэта ты атакаваў **мяне**.


Рррррррр!
Што тычыцца маёй **унучкі**...


Ах!
SCHING
...у адрозненні ад **некампетэнтных лізасракаў**, якімі ты сябе атачыў...


...**яна** здольна сама прымаць рашэнні.


Грррррра!


Засталіся толькі **мы**, сяржант!
Ненадоўга.
Гррррк...


Гааа!


Ты за гэта **заплаціш**!
*Хуфф... Хуфф... о... хуфф...*
...о, не.


Капітан Траг!
Карабель...


...ідзе на дно!


На дно? Не...

«...майстар!»

Жывым ты не **ўйдзеш**, Шрэдар!

Я заб'ю цябе! **Вас усіх**!

Што ж, генерал, мяркую, усё залежыць ад таго...

...як **хутка** ты страляеш.

Гафф!

Прабачце, майстар.

Коя?! Што...


«...але гэты бой **скончаны**!»
Пакінь яго, Гранітар! Калі не хочаш **плаваць** у гэтым целе...


«...трэба забіраць генерала і ўбірацца з гэтай лодцы!»
Не!
Не!
NOOOOO!


Сэр! **Сэр**! Трэба ўходзіць! Караблю гамон!
Кіраванне Бёрнаў, передае Гранітар. Запусціць **экстраную тэлепартацыю**, як чуеце!?
Для ўсяго **экіпажа?**
Не, Бёрнаў...
Забіць яго! **Я хачу забіць яго**!


«...толькі для **трох**».


Зразумеў. Тэлепартырую трох.
Шрэдар, **БУДЗЬ ТЫ ПРОКЛЯТЫ!**
FOOM


Майстар, спадзяюся, я не нашкодзіла вам, калі ўнесла вас з карабля. Проста...
Ты зрабіла тое, што было **неабходна**, Коя... Я ніколі не абвінавачу сваіх салдатаў у ініцыятыўнасці.


Гэта значыць, што цяпер мы будзем **ваяваць** з генералам Крэнгам, майстар?


Так, Бладжэн.


Шчыра кажучы...


...мы **заўсёды** ваявалі.
Працяг будзе!

# ПАДТРЫМАЙ НАС НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа нам праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перакладa **на 1 месяц раней**, чым падпісчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміўм** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпісчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміум.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Нашы мэты:

**100 патронаў** -
мы наймем перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
мы створым выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
наша выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.